**ХРОНІКА ЦАРКОЎНАГА ЖЫЦЬЦЯ. — У „Беларускай думцы"** чытаем: „Царква і заля ў Саўт Рывэры закончаны знадворку". Нічога ў часапісе ня ўспомнена адкуль узялася зямля ў некалькі акраў, нехта-ж гэнай працай кіруіць!

У месяцу кастрычніку гэтага году, у Саўт Рывэры, быў ладжаны баль, каб дабыць грошы для пабудовы новай царквы. Прысутнымі на балу быў кангрэсман Патэн, гарадская ўправа. „Героямі" балу быў Рыгор Арцюшэнка і протопрасьвіцер Лапіцкі. Із усяго выглядала, што ня толькі банкетам, але і будовай царквы кіруюць Грышка і протопрасьвіцер. На банкеце ня было старшыні будаўнічага камітэту сп. Цярпіцкага, які нясець сапраўдны цяжар; ня было найбольшага рэспубліканца Беларуса інжынера Бахара, які дабыў зямлю для новай царквы. Чаму „Царкоўны сьветач", „Беларуская думка" ня хочуць пазнаёміць сваіх чытачоў із людзьмі, якія зрабілі так многа для Саўт Рывэрскіх беларусаў?

Нятолькі сьветач, але ў сваей скучнай прамове на балу, протопрасьвіцер дзякуе тым, хто дапамог зладзіць бал, чамусьці аніякага дзякуй сп. Цярпіцкаму, інжынеру Бахару. Падзяку дастаў Рыгор Арцюшэнка, які дастаўляіць гарэлку на паседжаньні будаўнічага камітэта дый амаль нічога ня робіць у гэтым камітэце. Наступна былі атакаваны агенты Масквы, якія шкодзяць беларусам. Даражэнькі протопрасьвіцер, ніхто ня прыносіць столькі шкоды для Беларускай Палітычнай Эміграцыі, як самы беларусы. Вашая прамова на балу, тактыка пісакаў у вашым сьветачу, думцы прынесьлі найвялікшую шкоду тым, хто вам дапамагаў і верыў дый столькі зрабіў для новай царквы. Йшчэ на самым прыезьдзе беларусаў да Саўт Рывэра, вы із сваей сьвітай загналі вельмі многа сваіх людзей да расейскай царквы, хто разагнаў вашую вэтэранскую арганізацыю і г.д. Маскве непатрэбна засылаць агентаў да нашых арганізацыяў, усё, што ім трэба, гэта дапамагчы лідарам БНР і БЦР. Той, хто мешаіць Маскве МВД распраўляіцца із гэтымі людзьмі: яны замардавалі Пятлюру, Бэндэру, якія мелі ахову, але ніхто не зачапіў Абрамчыка дый ніхто не чапаіць Астроўскага, Івана Касяка, Станіслава Станкевіча, якія амаль не маюць аховы. Ня трэба рабіць памоўку на воўку, калі сабачка вінаваты!

Не прамінуў айцец і тых, хто ёсьць нэйтральным. Што гэта за людзі? Адна група гэта тыя, хто ўтаміўся гадамі пераконваць айца, дый махнулі рукой на ўсё; другая група нэйтральных верылі спачатку, што лепш быць збоку — гэта традыцыя беларускай псыхікі да грамадзкіх спраў, такіх у Саўт Рывэрскай парахвіі больш, як палавіна. Вось, айцец, тут раскрываецца перад вамі сакрэт чаму на парахвіяльных выбарах, царкоўны камітэт выбіраецца гадзіна пазьней пры любой колькасьці прысутных; склікаць дзьве трэцьціх прыхажан ёсьць амаль немагчыма!

Асновай хрысьціянскага вучэньня гэта змагацца супроць свайго я! Якім вучэньнем кіруецца сьвятар, які ёсьць больш палітыкам, як сьвятар?

**Рэдакцыя**

# Зь 9-ае сустрэчы

Восьмі разоў Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне Задзіночаных Гаспадарстваў Амэрыкі і Беларускае Згуртаваньне Канады рабілі сустрэчы із сабою. Што першы раз такая сустрэча была беспрацоўнай, гэта можна зразумець і даравацъ, бо, як кажа прыказь, першы блін сабаку. Але што яшчэ сем разоў адбылася сустрэча дзеля сустрэчы, як быццам мы ня маем чаго рабіць сустрэўшыся, дык гэта сорам. Не ратуюць і рэзалюцыі, нельга імі заступіць працы, дзейнасьці.

Сёлета сустрэча мела часткава працоўны характар. Нажаль, абмыла была ўчынена ў раскладзе часу. Час ад 1-ае да 4-ае гадзіны ў сыботу быў прызначаны на выбег па Ню Ёрку, на каторы ніхто не пайшоў. Адлі без патрэбы таго ж дня заняла часьць часу т. зв. самадзейнасьць, наапошку было ігрышча ў сваёй залі. У нядзелю акадэма й концэрт мелі б заняць меней часу, каб не марыліся людзі будучы на іх. Прамова ад арганізатараў мае быць кароткая, ясная каб ня слухалі іх з абавязку. Прамоўца ня мае ўносіць асабістых мамэнту. Калі б, апрача прамовы беларускае, была яшчэ прамова паанґельску, дык яна мае быць яшчэ ладне карогшая. Калі б так зрабіць, дык баль мог бы раней пачацца і раней скончыцца, каб назаўтрае працоўная часьць магла пачацца роўна а гадз. 9-ай, бо а адзінанцатай ужо разьяжджаліся. Гэтак разьмяркаваўшы, было б 10 гадзін на працоўныя зборкі, нарады.

*Працоўная гасьць* сустрэчы была на тэмы выдавецтва й беларускага ўзгадаваньня дзяцей і моладзі. Як жа пра гэта было наказана? Наказ (у Но. 195 ,,Беларуса“ на бачыне 1-ай) быў гэткі: ,,5-га верасьня (сыбота)... нарада ў справах беларускага выдавецтва на эміґрацыі (пачатак а гадз. 4-ай па паўдні). Вечар мастацкае самадзейнасьці з рэфэратам на тэму ,,Беларускае ўзгадаваньне дзяцей і моладзі (пачатак а гадз. 8-ай увечары). Вось жа, калі на выдавецтва давалася 4 гадзіны, то на беларускае ўзгадаваньне дзяцей і моладзі толькі 1 гадзіна, бо а 9-ай гадзіне пачалося ігрышча, праз (пра) што было ведама з вусных наказаў.

Апрача гэтага кадзе менаванага наказу, нічога болей ня было ведама, што мае быць на нарадзе, прызначанай выдавецтву. Затым ня толькі прыяжджомыя, але й сам старшыня ўсіх зборак або нарадаў Сустрэчы, др. Я. Запруднік ня быў прыгатаваўшыся да разгляду справы выдавецкай. Пачаўшы нараду й пасуліўшы выдаваць бюлетэнь паанґельску, ён ня мог сказаць, што ў ім будзе, і толькі па

Сустрэчы ў лічбызданьню зь яе ў Но. 161 „Беларуса“ напісаў, што бюлетэнь інфармаваў бы „пра сучасны стан беларускае справы ды *ход падзеяў на Беларусі*“. Я падчыркнуў апошнія словы, бо дзесяток год Запруднік рэдаґаваў „Навіны зь Беларусі“ (выдаваў іх Амэрыканскі Комітэт) з большаю шкодаю, чымся карысьцяй беларускай справе, бо, першае, русыфікаваў мову нашае эміґрацыі, перадруковуючы тэксты моваю, сілком зрусыфікаванаю Масквою; другое, абмежаваўся толькі прасьцягам радзкае рэспублікі Беларускае, пакідаючы вонках увагі звыш трайціны засталых земляў вялікалітоўскіх, у вялізарнай бальшыні беспасярэдне прысабечаных Масквою; трэйцяе, бывалі паўтарэньні хвальшывых цьверджаньняў чужых без адцемляньня іх хвальшу, як, прыкладам, цьверджаньне Вяльгорскага, што ў Вял. Кн. Літоўскім у граніцах яго 1772 г. было 29 працэнтаў Палякаў, калі іх там і аднаго працэнта ня было; або што Беларусаў у бацькаўшчыне іхнай ё толькі, колькі іх запісана ў Беларускай радзкай рэспубліцы. Калі б так было ў бюлетэню, дык на што ён нам такі? Валей выдаваць паанґельску часапіс беларусаведы, як, прыкладам, Ukraine, рэдаґаваны др. Чубатым; такі часапіс даваў бы ведамкі ўсім, сваім і чужым. Памог бы ён і адраджэньню асыміляванай часьці беларускае моладзежы, быў бы колцам, ды не малым, у ланцузе адраджэнскае працы сярод яе.

Узглядам кніжнага выдавецтва застаецца паўтарыць напісанае А. Будзічам у лічбызданьню із Сустрэчы, што „праблема стала тымчасам на пасуленьню („прапанове“) сп. Б. Данілюка стварыць асобную выдавецкую супалку, што дзеяла б як самастойная выдавецкая адзінка“. Надабе зацеміць, што выдавецтва гэта ня толькі кошты, але ня ў меншай меры знацьцё таго, што выдаеш, уменьне аценаваць якасьць яго.

На тэй жа нарадзе я наказаў, што будзе выходзіць моўны й гісторычны часапіс. Затым што мой артыкул „Надзвычайная патрэба“, даны загадзя да ліпнёвага нумару „Беларуса“, быў выдрукаваны ў ім у жніўню і да рук учасьнікаў сустрэчы яшчэ ня быў дайшоўшы, я прачытаў яго з рукапісу. Усі зь ім згадзіліся. Адлі я наказаў нарадзе, што некаторыя адумыслоўцы ў галіне гісторыі й моваведы хочуць досыць учыніць гэтай надзвычайнай патрэбе; дарма што яны былі, казаў той, найпершым ядром ініцыятыўнага грудку, і ня было ведама, з каго будзе складацца рэдакцыя, а таксама назоў часапісу, я, ведаючы моцную волю іхну, асьветчыў, што часапіс будзе выходзіць пры ўсялякіх умовах. Я наказаў ад грудка, а не ад сябе толькі, бо й найпершае зычаньне выдаваць такі часапіс было вышаўшы не ад мяне, але ад іншага; ды я ж, наказуючы, ані разу

ня ўжыў слова „я“. Усё гэта, добра ведаючы, А. Будзіч чамусьці ў сваім лічбызданьню ў Но. 161 „Беларуса“ напісаў: „З прыхільнасьцю сустрэлі ўдзельнікі нарады заяву др. Я Станкевіча *пра свой замер („намер“) выдаваць гістарычна-моўны часапіс* (падчыркненьне мае — Я. С.).

Затым што лічбызданьне А. Будзіча із Сустрэчы (маю наўвеце толькі працоўную часьць яе) у Но. 161 „Беларуса“ ня сусім адказуе запраўднасьці, мушу гэтта сказаць, як была на сустрэчы разгледжана справа ўзгадаваньня беларускае моладзежы. Пачаць яе прызначылі др. В. Жук-Грышкевічу з чытаняй на тэму: „Беларускае ўзгадаваньне дзяцей і моладзежы“. Канчаючы сваю чытань, чытаньнік із смуткам сьцьвердзіў, што вялікая часьць нашае моладзі ня знае роднае мовы. Тады выступіў старшынюючы на нарадзе Запруднік і сказаў, што ё выхад: можна абысьціся бяз роднае мовы: трэба зьвярнуць увагу на псыхолёґію моладзі; калі будзе ў яе беларуская псыхолёґія, дык гэта й будзе тое, што нам патрэбнае. Гэта было ўсім вялікаю неспадзеўкаю. А. Будзіч піша ў сваім лічбызданьню, што было „выбуховае пытаньне“. Не, быў выбух агульнага абурэньня. Будзіч там піша, што за родную мову было старшае пакаленьне, а за псыхолёґію — малодшае або сярэдняга веку і падсувае думку, што гэта „конфлікт пакаленьняў“. Няпраўда! За „псыхолёґію“быў адзін адзінюсенькі Запруднік. Усі іншыя былі за канечную патрэбу знацьця роднае мовы і выказваліся за гэта, ды горача, моцна, пераконуюча.

Было зазначана, што ё мілёны зрусыфікаваных Вялікаліцьвіноў-Беларусаў (на ўсход ад р. Акі, у сярэдняй Цьвершчыне і інш.), каторыя, спабыўшыся роднае мовы, маюць сябе за Расійцаў і служаць ім, і варожыя народу свайму. Можна зь беларускай псыхолёґіяй губіць Беларусаў. Заступаць значаньне мовы псыхолёґіяй ёсьць тое самае, што йсьці па ліні найменшага дый ніякага спраціўленьня, тое, што нічога не рабіць. Хтось папытаўся: „Што важнейшае — мова ці веданьне, хто ты?“ Пад веданьнем, да якога народу належыш, ё разумеў і нацанальнае пачуцьцё і такія ж імкненьні, — адным чынам нацанальную ідэялёґію. Ведама, што такая ведзь карысьнейшая за адну мову. Але, падчыркавалі, дайсьці да такога веданьня можна толькі пераз родную моу; бо й сотнае часьці таго ня знойдзеш у чужой мове, што знойдзеш у сваёй, бо гэтаю й цяпер творым шмат, шмат болей і карыстаем із тога, што даўгімі вякамі тварылі нашыя прашчуры. А чаго ня знаеш, таго й любіць ня можаш. Дазволю сабе дадаць гэтта крыху да тога, што было сьцьверджана на нарадзе. Каб адных гадаваць а асыміляваных усьведамляць пры

помачы чужых моваў, дык мусілі б стварыць беларусаведу, дый на'т красную літаратуру із жыцьця нашага народу, бо й яна памагае, — у мове анґельскай, расійскай, польскай, нямецкай, францускай, гішпанскай і інш. Які народ дуж гэта зрабіць? Ніякі.

Др. Станіслаў Станкевіч, газэтны сябра Запруднікаў, стараўся зьмякчыць выступленьне ягонае за абходжаньне бяз роднае мовы. Ст. Станкевіч спробаваў даводзіць, што, хоць Запруднік так казаў, але ён, відаць, так ня думаў, бо вось, дзеці ягоныя ґу́каюць пабеларуску. Але ж справа йдзець праз тое, як мы ставімся да дзяцей *усіх* Вялікаліцьвіноў. А што Запруднік так думаў, як сказаў, відаць із таго, што ён цяпер так думае; у сваім лічбызданьню ён стараецца апраўдаць свой „псыхолёґічны пагляд менаванаю быццам розьніцаю памеж старшых і сталых, да каторых сам належа, і падсуваньням „конфлікту“ памеж іх.

У сваім лічбызданьню із Сустрэчы Запруднік быццам стараецца паправіцца. На нарадзе ён менаваў толькі псыхолёґію“ а тут кажа: „Што важнейша ў працэсе ўзгадаваньня — родная мова ці веданьне („веда“, але ж веда — навука, Я. С.) пра Беларусь (хоць і не ў беларускай мове)“. Бачым тут хітраваньне, бо супроці роднае мовы ставіцца веданьне. А ці родная мова пярэча веданьню? Бярджджэй, шмат, шмат барджджэй з роднаю моваю будзеш мець веданьне, а безь яе звычайна немагчыма. Няхай пакажуць тых, што сталі сьведамымі (ідэйнымі) Беларусамі бяз роднае мовы. Такіх няма.

Прыкрым дысонансам на нарадзе прагучэла прамаўленьне Ант. Адамовіча. Ён сказаў, што чытаньняў (завуць іх некаторыя рэфэратам, іншыя чамусьці любяць ужываць маскоўскі „даклад“) ня трэба, але трэба ўсьведамляць жывою моваю. Пахваліў яшчэ кагось за знацьцё чужых моваў. Вось і ўсё з выступленьня ягонага. Ніхто ня скажа, што жывое мовы по шмат. Але чытані, ды яшчэ з дыскусямі таксама ё жывая мова. А што іх можна й трэба выдрукаваць і разаслаць усюдых, дык карысьць ізь іх шмат разоў памножыцца. Аднэй жа жывою моваю можна дзеяць толькі на найбліжэйшага свайго суседа, дый то калі маеш час на гаворку зь ім. Фактычна парада Адамовічава зводзлася да таго, што нічога ня трэба рабіць дзеля нацанальнага ўзгадааньня моладзежы. Гэта так было дзіўна і йшло напярэк усёга, што адбывалася на нарадзе, што на'т А. Будзіч абмінуў яго ў сваім лічбызданьню.

Дарма што нарада праз (пра) нацанальнае ўзгадаваньне дзяцей і моладзежы, подле разьмеркаваньня арганізатараў, мела трываць толькі адну гадзіну, на яе засталося ад выдавецтва звыш дзьвюх гадзінаў — ды адна гадзіна ў панядзелак, — разам ад 4-4 і поў гадз.

На ёй справа нацанальнага ўзгадаваньня моладзежы грунтоўна была разгледжана. Жаданьне ўсіх із выняткам Адамовіча (бо й Запруднік ужо не працівіўся) павесьці арганізаваную ўсебеларускую дзеяльнасьць дзеля ўзгадаваньня аднае і ўсьведамленьня другое часьці беларускае моладзежы, улучаючы канечную патрэбу навучэньня роднае мовы на толькі было яснае й моцнае, што было пэўным пачацьце гэтае арганізацы на самай Сустрэчы. З пасуленьням гэтага й выступіў Уладыка Андрэй, кажучы, каб добрая гаворка нашая не засталася бясплоднаю, трэба абраць групу дзеля пачацьця безадвалочнае арганізацыйнае дзейнасьці. Да гэтага сп. Аляксандра Міцкевіч дадаў, што й праграма ё апрацаваная др. Я. Станкевічам. Але ўсё гэта Запруднік, старшынюючы, зыгнораваў і, не паставіўшы пасуленьня на галасаваньне, скончыў нараду, а зь ёй і Сустрэчу. Ён сказаў толькі, каб усі падалі тэксты сваіх выступленьняў да пратаколу Сустрэчы. Значыцца, ён парупіўся толькі праз Сустрэчу. Дый, на добры розум, дабро Сустрэчы было б лепшым, калі б ня скончылася яна бясплодна, а так да асьмёх сустрэчаў дзеля сустрэчы была дадана толькі гаворка, як той казаў, другое „г“, нутраны наш не́прыяцель, бо першае „г“, як ведама, — гарэлка.

Можна было зацеміць, што, відаць, хтось із арганізатараў Сустрэчы, відавочна грудок, да каторага належа Запруднік, ня зычыў, каб справа беларускага ўзгадаваньня дзяцей і моладзежы была грунтоўна разгледжана і пачата на Сустрэчы, бо наўперад і часу было прызначана на гэта толькі гадзіну (пасьлей час сам сабою павялічыўся) і пасуленьне ўчыніць пачатак арганізацы было груба зыгноравана, прымеж тога як дзеля справы шмат меншае, бюлетэню, была абрана коміся.

Па Сустрэчы я напісаў др. Запрудніку, пытаючыся ў яго, што робяць або маняцца рабіць дзеля ўзгадаваньня беларускае моладзежы. Адказу не адзяржаў. Але адказ усім на такое пытаньне выдрукаваны ў лічбызданьню А. Будзіча ў Но. 161 „Беларуса“. Тут на І-ай бачыне, пасярэдзіне 3-яе істужкі кажацца: „Трэба спадзявацца, што праблема беларускага ўзгадаваньня, актуалізаваная 9-ай Сустрэчай, знойдзе свой здаровы й рэчавы выяў на балонах газэты „Беларус“. А на бач. 2-ой у рэдакцыйным (не падпісаны) арт. „Праблемы беларускага ўзгадаваньня“ памеж шматслоўя кажацца: „ Рэдакцыя „Беларуса“ ставіць гэтую праблему на шырэйшае абмеркаваньне (як бы нельга было шырэй меркаваць арганізуючы Я. С.), запрашаючы ўсіх да мены („абмену“) думак“. Вось жа Сустрэчу скончылі гаворкаю, а ў газэце тое самае хочуць скончыць пісаньням.

*Я. Станкевіг.*

# Агляд прэсы — камэнтары

БЕЛАРУС № 161, 1970 г. „9-ая сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі“ „Беларусь у змаганьні“. Усё што арганізоўваюць БНРаўцы эмігранцкага вырабу — гэта робяць усе беларусы; у той час, як вы не складаіце нават палавіны ўсяе эміграцыі. Як Беларусь можыць быць у змаганьні, калі Беларуская Палітычная Эміграцыя траціць 99,9% свае энэргіі на барацьбу паміж сабою. Хіба 1/100 частка аднаго процанта энэргіі Беларускай Эміграцыі, посьле асабістых склокаў, павядзець Беларусь у змаганьне?

Будзем надзеіцца, што 10 сустрэча будзіць пад лёзунгам: Беларусы ў змаганьні паміж сабою; альбо такая тэма: як асвабадзіць 99,9% энэргіі асабістага змаганьня на супольнае змаганьне за Незалежную Дэмакратычную Беларускую Дзяржаву.

БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА № 12, 13, 1970 г. Царкоўны зьезд.

„У першы-ж дзень нарадаў была выбрана Рада Беларускай Праваслаўнай Царквы Злучаных Штатах Амэрыкі і Канады, у якую ўвайшлі: Айцы Настаяцелі, а. дзіяканы і па 4 асобы ад кожнага прыходу“.

Была-ж нейкая сур'ёзная прычына, чаму прозьвішчы людзей якія былі выбраны да гэтай рады ня былі апублікаванымі. Першай, можа толькі і адной прычынай было тое, што ня была-б бачна розьніца паміж кангрэсовым камітэтам дый гэтай партыйнай царкоўнай радай.

ПРОМЫШЛЕННОСТЬ БЕЛОРУССИИ № 7, 1970 „Буры уходят в глубь земли“. Цэнтральныя часткі Беларускага масыва і Прыпяцкай упадзіны паднімаюцца із хуткасьцю 6 мілімэтраў у год. Прычынай гэтаму ёсьць разломы ў зямной кары (зямная кара раўняецца 30-80 км. у глыбіну на сушы і ад 5 да 15 км. у акіянах). Такі разлом ёсьць у Прыпяцкай упадзіне, праз гэтыя разломы пранікаюць магматычныя расплавы із мантыі (назва наступнага слоя зямной планэты пад зямной карой).

Выхад магматычных расплаваў ёсьць прычынаю падняцьця альбо апусканьня пэўнай тэрыторыі на зямлі, а таксама спрычыняюцца да адкладу розных карысных выкапняў, як зялеза, золата і г.д.; інжынеры павінны разьлічваць на такія зьмены на паверхнасьці зямлі пры будоўлях на рэках, пры меліярацыйных працах.

Я. ЗАПРУДНІК на навуковай конфэрэнцы ў Чыказе 9-га сьнежня 1969 г., каторая адбывалася на тэму: „50 год нацанальнага самазначаньня“, вылічаючы ў сваёй чытані тэзы, у сёмай зь іх ска-

заў гэткае;

„У працэсе фармаваньня беларускае нацыянальнае сьведамасьці й фармуляваньня адраджэнскае праграмы аб'ектыўна зрабіла свой уклад гэтак званая „западна-русская“ школа, якая, хоць і ня ставіла за мэту палітычнага самаазначаньня Беларусі, усё-ж спрычынілася да ўзмацненьня ў беларускім народзе пачуцьця гісторычнае самабытнасьці“ (гл. „Беларус“ № 141, год 1969, істужка 5-ая на бач. 4-ай).

Ініцыятарам „Западно-русской школы“ быў вешаньнік Мураўёў. Ён жа, адлі наступнікі ягоныя даволі сяродкі на яе. Складалася яна з тае часьці дробныхураднікаў расійскіх беларускае нацанальнасьці, каторыя зрадзілі свой народ і за пэнсі заслугаваліся свайму расійскаму „начальству“ і расійскай палітыццы ў Беларусі. Другою складоваю часьцяй „западно-русов“ былі прысланыя да Беларусі дзеля русыфікацы Расійцы; яны і кіравалі „западно-русскую школу“.

Заданьням „западно-русов“ было — памагаць расійскаму ураду як русыфікаваць і калёнізаваць Беларусь расійскімі мужыкамі і расійскімі панамі. Гэтыя мелі адзержаваць „дварочкі ўвелькі зь 500 дзесяцін“. Не мяняе менаванага тое, што, у канцы „ зап-рус. школы“ колькі „западнароса у *(Раманоў, Стукаліг)* быццам бліжыліся да беларускага нацыянальнага сьведам'я.

Апісаў „западно-русскую школу“ *Аляксандра Цьвікевіг* у сваёй працы „Западно-русская школа і яе прадстаўнікі“, каторай часьць выдрукавана ў Менску ў часапісе „Полымя“ (№ 8 з 1927 г., NN 1, 2, 3, 4, 7 з 1928 г. № 2 з 1929 г.), а цэласьць вышла 1929 г. асобнаю кнігаю пад назовам „Западно-руссизм“. Кнігу гэту адразу сканфіскавала расійская камуністычная партыя, а Цьвікевіча арыштавала й фізычна зьнішчыла. Скарочана зьмест менаванае кнігі пераданы ў кніжцы Я. Станкевіча. „Зь гісторы русыфікацы Вялікалітвы“, у Ню Ёрку 1967 г.

І просьле менаванага так казаць, як сказаў Запруднік праз, „западно-русскую школу“, можна толькі нічога праз яе ня ведаючы.

*ПАРАХВІЯЛЬНЫ КАМІТЭТ*
*БЕЛАРУСКАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ ІМЯ СЬВ. ЕЎФРАСІНІ*
*Саўт Рывэр, Н. Дж.*

*Дня 5 кастрыгніка 1970 г.*

*Паведамленьне*

*Гэтым ветліва падаецца да ведама, што згодна парахвіяльнага статуту, разьдзелу 11, параґр. 3 і згодна пастановы Парахвіяльнага*

*камітэту з дня 1 кастрыгніка г.г., на дзень 25 кастрыгніка 1970 г. склікаецца Надзвыгайны Агульны Сход парахвіянаў. Сход адбудзецца а 2:00 гадзіне дня ў царкве.*

*Парадак дня:*

*1..Адкрыцьцё сходу*
*2. Выбары старшыні і сакратара сходу*
*3. Справа набыцьця рэсорту „Бэлэр-Менск“*
*4. Справа прадажы старога будынку царквы*
*5. Вольныя прапановы.*

*Разьдзел 2 статуту: „Пастановы надзвыгайнага сходу будуць правамоцнымі, калі на сходзе будзе ня менш 2/3 парахвіянаў з агульнага складу парахвіі.*

*Справы вельмі важныя і Вашая прысутнасьць ёсьць абавязкавая.*

*Міхась Сенька* — *Сакратар*

*/—/ Ф. Высоцкі*
*Федар Высоцкі*
*Старшыня К-ту*

---

Сход 25 кастрычніка 1970 года быў скліканы, толькі ня было 2/3 парахвіян з агульнага складу парахвіі. Добра зрабілі саўтрывэрскія парахвіяне. Не рабіце саладуху для тараканаў і бяду для сябе і грамадзтва. Вы купіце не рэзорт за 100 даляраў, а 2/3 укладаў (шэраў).

Вось такую грашовую суму вы павінны будзеце заплаціць так, як захочуць тыя ад каго гэтыя грошы былі ўзяты — згодна справаздачы 1969 года:

| | | |
|---|---|---|
| | $24,244.00 | Прыватныя пазычкі на працягу сямі год. Гэты год гэная сума павінна быць йшчэ большай. |
| Гэтыя пазычкі павінны быць меншымі ў 1970, затое прыватныя пазычкі і процанты павінны быць большымі. | $17,761.00 | Пазычка ў банку пры куплі рэзорта. |
| | $11,632.00 | Другая пазычка ў банку на пабудову залі. |
| | 30,000.00 | Прыблізна столькі грошы трэба зьвярнуць за дзялянкі. Гэтыя людзі могуць патрэбаваць процанты за сем год, 6% =$12,600.00. |
| | $20,000.00 | Найменш, трэба будзіць выплаціць шэраўцам, якія нязгодны перадаць свае шэры. Пры афармленьні дакумэнтаў можыць знайсьціся больш дольшчыкаў, якія зажадаюць грошы. |

Усяго: $103,637.00. У сапраўднасьці гэтая сума

можыць быць большай. За гэты год, дый нават за астатнія гады могуць быць даўгі, што мы не знаем. Не забывайцеся, калі дзялянкі будуць афармлены, тады трэба будзіць плаціць банку 200 даляраў за кожную дзялянку, а іх больш, як сорак.

Саўт рывэрскія прыхажане, ня верце „бруклінскай інтэлігенцыі“ дый сваім апартуністам, іх адвакат робіць для іх, а не для вас, вы парадзьцеся із сваім праўнікам. Як бачыце, вы возьміце на плечы прыхода больш як 100,000.00 даляраў. Калі гэта будзіць узята на выплату (моргедж), то інтэрэст (працэнт за пазыку) будзіць большы, як той падатак, які мы плоцім для горада; хочыце вы мяняць быка на індыка? Банкруты стараюцца вышчаміць хвост із той пасткі, якую яны самы змайстравалі і папаліся.

*Др. П. Маркоўскі*

***

*Ніжэй друкуем ліст карпарацыі ў якім скрываюцца сапраўдныя факты такай фразай „на некаторыя пункты няма фізычнай маггымасьці на скорую руку даць адказ“.*

1. *Паны дырэктары, вы што не плацілі пазычку (моргіг) гэты год, лікі якія вы падалі ёсьць за апошні год?*
2. *Маіце вы плян (surveior) усяго абшару рэзорта, прыхажане зьвярніце ўвагу ці вадакачка праз дарогу ёсьць у пляне.*
3. *Чаму вы скрываіце колькі грошы мусіце зьвярнуць за дзялянкі, за шэры?*
4. *Колькі пазычак вы зрабілі гэты год?*

## АПЫТАЛЬНІК

Ці згодны Вы, каб Царква Сьв. Еўфрасіні Полацкай у Саўт Рывэр пераняла разам з Царквою Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмон Гіл, Н. Ё. рэсорт Белер-Менск, пераймаючы разам з гэтым усю адказнасьць за яго грашовы і гаспадарчы стан?

Так ☐ Не ☐

Імя і прозьвішча . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Подпіс . . . . . . . . . . . . . .

Апытальнік трэба перасляць да даты сходу старшыні Парахв. К-ту.

Ліст атрыманы ад карпарацыі Бэлэр-Менск.

Старшыні Парахвіяльнага Камітэту Сьв. Еўфрасінеўскай Беларускай Праваслаўнай Царквы ў Саўт Рывэр, Нью Джэрсі.

Вельмі паважаны Сп. Старшыня:

У адказ на Ваш ліст з дня 8 ліпеня 1970 году ў справе куплі (пераняцьця) маемасьці рэсорту Бэлэр-Менск праз Вашую і ў Рычмонд Гіл парахвіі адказваем на пытаньні Вамі пастаўленыя, з засьцярогаю, што дакладна на некаторыя пункты няма фізычнай магчымасьці на скорую руку адказаць:

а/ Агульны абшар рэсорту ёсьць 63 акры

б/ Пад забудаваньнямі — прыблізна 10 акраў

в/ Будынкі наступныя — жылых адзін г. з. з аграваньнем
чатыры гатэлі
пяць бунгалаў
адна заля і бар
тры будынкі ўтыльнага характару
вялікая купальня

г/ Іхні стан розны

е/ Паасобная задоўжанасьць у суме даляраў:
моргіч — 29,000.00
прыватныя — 24,000.00

д/ Гадавая высокасьць падаткаў — 8,000.00

ж/ Сёньняшняя прыблізная рынковая вартасьць —100,000.00.

З пашанай да Вас,

С. Рагалевіч
Старшыня


Радактар: Dr. P. Markouski Editor
Адрыс: 204 S. Highway, 18
East Brunswick, N.J. 08816
USA

Цана 50 ц. Price 50 ¢

Printed by The Whiteruthenian Press * 452 South Avenue, Syracuse, N.Y., 13204